УДК 811.161.3(075.2=161.1)
ББК 81.2Беи=922
В15

Рэцэнзенты:

д-р філал. навук, прафесар, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі *А. А. Лукашанец;*
нач. аддзела МДАІПКіПК *Н. І. Сінякевіч*

## Умоўныя абазначэнні:

 — дамашняе заданне;

* — заданне творчага характару;

 — правіла;

● — дадатковае заданне да практыкавання;

 — падказка слоўніка;

.. — пропуск літары або літар;

... — пропуск слова або слоў;

 — слоўнікавае слова.



ISBN 985-465-215-7

# УСТУПНЫ МОЎНЫ КУРС




Беларуская і руская мовы — родныя сёстры. Яны вельмі падобныя адна на адну. Аднак ёсць і шмат адрозненняў. Напрыклад, у беларускай мове гук [р] заўсёды цвёрды: *рабіна, гавару*, а ў рускай ён можа быць цвёрды і мяккі. У рускай мове [ч] — мяккі гук, у беларускай — заўсёды цвёрды: *чытай, маўчу*. А гук [і] у беларускай і рускай мовах абазначаецца рознымі літарамі.

## Літара *І, і*




**1.** Прачытайце словы. Знайдзіце ў іх літару, якой няма ў рускай мове.

Ліса, сініца, кветкі, хітры.

**2.** Напішыце ў сшытках літару *і*, як паказана на ўзоры.

*і і і І І І*

**3.** Спішыце словы. Падкрэсліце літару *і*. Вусна перакладзіце іх на рускую мову.

*Лесвіца, калідор, навіны.*

**калідо́р** **ле́свіца**

**4.** Прачытайце. Назавіце словы, якія напісаны па-беларуску. Як вы пазналі іх?

Маліны, лінейка, мир, зіма, ліса, липа.

**5.** Прачытайце. Спішыце.



Іра і Аліна збіралі суніцы.



**6.** Назавіце рэчы, якія намаляваны. Запішыце і запомніце гэтыя словы.





Словы для даведкі: *відэлец, ручнік, нажніцы.*

**відэ́лец**



**7.** Прачытайце. Назавіце словы з літарай *і*.

Сонца промні рассыпае.
На лістку расінказзяе.

- Спішыце другі радок.

**ручні́к**



**8.** Прачытайце і запомніце, як трэба вітацца па-беларуску.

| | |
|---|---|
| Добры дзень! | **Добрай раніцы!** |
| Добры вечар! | **Прывітанне!** |

- Каму можна сказаць: «Прывітанне!»?
- Спішыце выдзеленыя словы ветлівасці. Падкрэсліце літару *і*.

9. Прачытайце. Спішыце.

Міхась, Піліп, Максім, Зміцер, Паліна, Іна, Аліса, Ірына, Ніна.

● Якія яшчэ беларускія імёны хлопчыкаў і дзяўчынак вы ведаеце?

10. Прачытайце назвы беларускіх гарадоў. Спішыце іх. Падкрэсліце літару *і*.

Мінск, Віцебск, Магілёў, Нясвіж.

● Якія яшчэ назвы беларускіх гарадоў вы ведаеце?

11. Запішыце ў сшытку словы, як паказана на ўзоры.

У з о р: *птушка — птушкі.*

Цукерка — ... ; падручнік — ... ; кропля — ... .



*Цуке́рка* — конфета.
*Падру́чнік* — учебник.
*Кро́пля* — капля.

● Якая літара на канцы слоў дапамагае зразумець, што прадметаў шмат?

12. Прачытайце загадку. Адгадайце яе.



Маленькі шарык пад лаўкаю шарыць.
Збірае крошкі, баіцца кошкі.

● Спішыце. Падкрэсліце літару *і*.



13. Прачытайце і запомніце, як трэба дзякаваць і адказваць на падзяку.

Вялікі дзякуй! Дзякуй!
Калі ласка! Няма за што.

14. Папрасіце ў суседа па парце ручку, алоўак або лінейку. Падзякуйце яму, а ён няхай ветліва адкажа вам.

У з о р:
— Дай мне, калі ласка, аловак!
— Калі ласка!
— Дзякуй!
— Няма за што.

**адка́з**



*Адка́з* — ответ.
*Ало́вак* — карандаш.

*луга — луг, дорога — дорог*. Беларускі гук [г] падобны на [х]: *дапамагаю — дапамог, снегу — снег*. Вымаўляючы беларускі гук [г], мы не напружваем горла: *гара, герой, загадка, гром, газета*.

**17.** Прачытайце. Уважліва сачыце за вымаўленнем гука [г].

### Камарыная гара

Прыцемкі. Гара кладзецца спаць.

Гудзе паветра, поўнае камарэчы. Клубок камароў расце, нібы хтосьці намотвае на яго ніці.



*Агаро́днiна* — овощи.
*Гарбу́з* — тыква.
*Каву́н* — арбуз.
*Садавiна́* — фрукты.

**20.** Прачытайце скорагаворкi i патрэнiруйцеся вымаўляць гукi [г] i [г'].

1. Гера грае на гiтары.
2. Груня з Грышам грызла грушы.
3. Горкай, горкай, горачкай iшоў малы Ягорачка.

**21.** Назавiце тры iмёны, якiя пачынаюцца з лiтары *Г*. Запiшыце iх.



**22.** Прачытайце ўслых. Правiльна вымаўляйце гук [г].

А на золку за бугром
Праз вясёлку скача гром.
*Р. Барадулiн*



*На зо́лку* — на заре.

● Спiшыце. Падкрэслiце словы, у якiх ёсць гук [г].



## Вымаўленне гука [ч]



**23.** Прачытайце верш. Вымавiце выразна словы з гукам [ч].

Ган**ч**ар Сцяпан, зрабi мне жбан,
Каб гудзеў дудой, каб паiў вадой
**Ч**ыстай, халоднай —
з крынi**ч**анькi роднай!

● Як адрознiваецца вымаўленне рускага гука [ч'] i беларускага [ч]?

**24.** Прачытайце словы, спiшыце iх.

Качка, парэчкi, званочкi.



*Ка́чка* — утка.
*Парэ́чкi* — смородина.
*Звано́чкi* — колокольчики.



**25.** Прачытайце. Запомнiце, як трэба развiтвацца па-беларуску.

Да пабачэння! Да сустрэчы!
Да заўтра! Бывайце!
Добрай ночы! Дабранач!

● Спiшыце гэтыя словы ветлiвасцi.

*26. Развітайцеся з суседам па парце, а ён няхай адкажа вам.

У з о р:

1. — Да пабачэння!
— Да сустрэчы!

2. — Бывай!
— Да заўтра!

27. Прачытайце жарт. Правільна вымаўляйце гук [ч].

— Алеся, прачніся, калі ласка. Я забыўся сказаць табе «дабранач»!

- Чаму «ветлівасць» хлопчыка выклікае ў вас усмешку?



28. Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

— У цвёрдага гука **[ч]** ёсць сябар — таксама цвёрды гук **[ш]**. Аднойчы яны сустрэліся і дамовіліся «працаваць» разам. Дзякуючы ім атрымаліся цудоўныя словы: *шчасце, пяшчота, шчырасць.*

- З якім гукам «сябруе» [ч]?



*Пяшчо́та* — нежность.
*Шчы́расць* — искренность.






29. Прачытайце верш.

Чайка човен пачыняла
і на ўвесь прычал крычала:
— Сваячок мой шчупачок,
дай дошчачку і цвічок.

*Н. Галіноўская*



*Чо́вен* — лодка.
*Цвічо́к* — гвоздик.

- Выпішыце словы, у якіх ёсць спалучэнне літар ***шч***.

30. Запытайцеся ў суседа па парце, як яго імя і прозвішча, па ўзоры.

— Як цябе завуць і як тваё прозвішча?
— Мяне завуць Саша. Маё прозвішча Герасімчык.



**31.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце словы з літарай **ч**.

«Дабранач!» — кажу ўсім нанач.
*А. Клышка*

## Вымаўленне гука [р]



**32.** Прачытайце. Выразна паўтарыце словы з гукам [р].

— У рускай мове ёсць гукі-браты — цвёрды [р] і мяккі [р’]. А ў беларускай — толькі цвёрды [р]: *рабіна, Грыша, Ірынка*. Таму беларуская літара **р** сябруе толькі з галоснымі літарамі ***а, о, у, э, ы***: *градка, арол, кручок, рэбус, грыб*.

**33.** Прачытайце словы. Спішыце. Вусна перакладзіце іх на рускую мову.

Парасон, акуляры, крэсла.





**34.** Прачытайце верш. Што дзеці робяць раніцай?

**Пачынаем** дзень спачатку
Фізкультурнаю зарадкай.
З мылам мы пад кранам мыем
**Рукі,** вушы, твар і шыю.
Чыста мыцца — наша ўмова.
Той, хто **чысты,** — той здаровы.
*А. Александровіч*

● Спішыце выдзеленыя словы. Падкрэсліце літары **р** і **ч**.

**35.** Прачытайце. Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

У нашай кватэры тры пакоі. Вечарам сям’я збіраецца ў зале. Вялікая ... асвятляе пакой. На ўтульнай мяккай ... сядзім мы з братам. А ў ... — тата. Ён чытае газету. На падлозе пасцелены прыгожы ... . Мама ставіць кнігу ў кніжную ... .

Словы для даведкі: *канапе, крэсле, дыван, люстра, шафу.*

**кватэ́ра**

**36.** Прачытайце верш услых пасля настаўніка. Правільна вымаўляйце зычныя гукі [р] і [ч], спалучэнне гукаў [шч].

Над рэчкай ляшчына
Ў зялёным плашчы.
А ў рэчцы чародамі
Ходзяць ляшчы.

*І. Муравейка*



*Ляшчы́на* — орешник.



**37.** Прачытайце ўслых. Правільна вымаўляйце гук [р].

**Браты**

Паўлік і Міколка — родныя браты. Паўліку чатыры гады, Міколку тры.

Спатыкаецца Паўлік, падае і пачынае хныкаць. Міколка таксама хныкае.

— А ты чаго плачаш? — пытаецца мама.

— У-у-у, Паўлік ручку пабіў, баліць!

*А. Бадак*

● Спішыце першыя два радкі. Падкрэсліце літару ***р*** і суседнюю з ёй галосную.



## Вымаўленне гука [ц']



**38.** Прачытайце. Патрэніруйцеся вымаўляць гук [ц'].

Жылі-былі два малаточкі — вялікі і маленькі. Калі вялікі малаток забіваў цвік, ён спяваў: «Тук-тук-тук!» Маленькі малаточак забіваў маленькія цвічкі і спяваў: «Цюк-цюк-цюк!» Ён пачынаў, як і вялікі малаток, вымаўляць [т], а потым дадаваў да [т] гук [с']. Паспрабуйце так зрабіць, і ў вас атрымаецца гук [ц'].

*Паводле Н. Старжынскай*

**39.** Прачытайце верш. Назавіце словы, у якіх ёсць гук [ц'].



**Жалоблівы коцік**

Сядзіць коцік на кухні,
Ад слёз вочачкі папухлі.
— Чаго ж ты, коцічак, плачаш?
Ці піцькі, ці есцькі хочаш?
— Ні піцькі, ні есцькі не хачу,
Па сваёй жаласці плачу.
Сам кухар пячонку злізаў,

А на мяне, на коціка, сказаў.
Будуць мяне, коціка, біці,
Будуць мне вушкі церабіці.



*Ку́хар* — повар.
*Жа́ласць* — печаль.



**40.** Прачытайце, як трэба прасіць прабачэння.

Прабачце, калі ласка!
Выбачайце! Даруйце мне!

• Спішыце гэтыя словы ветлівасці. Падкрэсліце літару ***ц*** разам з наступнай галоснай.

***41.** Папрасіце прабачэння ў суседа па парце, а ён няхай адкажа вам.

Узор:
1. — Прабач мне, калі ласка. Сапраўды, я не хацеў.
— Я разумею. Дарую табе.

2. — Даруй. Мне вельмі прыкра, што я цябе падвёў.
— Нічога, не бяда. Не турбуйся.



**42.** Што намаляваў мастак? Запішыце гэтыя словы. Падкрэсліце літару ***ц***.







Словы для даведкі: ***цягнік, ласцік, кацяня.***



**43.** Прачытайце. Спішыце выдзеленыя словы. Падкрэсліце літару ***ц*** разам з наступнай галоснай.

З буйны́х ліп і бяроз лісты валяцца...
**Шапацяць, шалясцяць, залацістыя,**
Увысь галінкі **глядзяць** пусталістыя.

*Янка Купала*

## Гук [ў] і літара *ў*



**44.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

— Гук [у] можна цягнуць доўга: *жу-у-ук, зу-у-уб.* А калі гэты гук вымавіць вельмі коратка, атрымаецца [ў]: *тоўсты,*

*вяроўка.* Гэты кароткі гук і абазначаецца літарай **ў — у нескладовае.**

- Чым адрозніваюцца гукі [у] і [ў]?
- Якой літарай абазначаецца гук [ў]?

**45.** Прачытайце. Старайцеся правільна вымаўляць гук [ў].



Ляцеў камар, трымаў ліхтар.
Ліхтар гарэў, камар ногі грэў.
Ліхтар упаў, камар прапаў.

*М. Гіль*



*Ліхта́р* — фонарь.

**46.** Прачытайце рускія і беларускія словы. Якімі літарамі яны адрозніваюцца?

волк — воўк




лев — леў

**47.** Напішыце ў сшытку літару **ў**, як паказана на ўзоры.

ў ў ў



**48.** Спішыце словы. Вусна перакладзіце іх на рускую мову.

**ла́стаўка**

Слоўнік, ластаўка, кладоўка.

**49.** Прачытайце верш. Пра якую пару года ў ім гаворыцца?

Жураўлі па-над лясочкам
роўненькім ляцяць шнурочкам.
Тата мне казаў, што гэта
ў вырай адлятае лета.

*І. Шуцько*



*Вы́рай* — цёплыя краіны, куды на зіму адлятаюць пералётныя птушкі.

- Назавіце ў вершы словы з гукам [ў].

**50.** Спішыце словы. Вусна перакладзіце іх на рускую мову.

Рыдлёўка, шпакоўня, паштоўка.







**51.** Прачытайце сказы, устаўляючы патрэбныя словы.

Ліс мае пушысты і ... хвост. Ліс — ... . Ён палюе на мышэй, курэй і ... .

Словы для даведкі: *доўгі, зайцоў, паляўнічы.*

• Спішыце першыя два сказы. Падкрэсліце літару **ў**.



**52.** Прачытайце скорагаворку. Спішыце. Падкрэсліце літару **ў**.

Мухалоў і мухалоўка ловяць мух і мушак лоўка.

## Гук [дз'] і яго абазначэнне на пісьме



**53.** Прачытайце. Выразна паўтарыце словы з гукам [дз'].

— У беларускай мове ёсць гукі, якія абазначаюцца адразу дзвюма літарамі. Спалучэнне літар **дз** абазначае мяккі гук, падобны на звон камарыка. Каб вымавіць [дз'], трэба языком дакрануцца да верхніх зубоў. Напрыклад: *дзень, ідзі, дзяцел, дзюба, дзякуй.*



**54.** Разгледзьце малюнак. Чаму літары **д** і **з** «сябруюць»?




• Правільна вымавіце словы, у якіх **д** і **з** «сябруюць».

**55.** Напішыце ў сшытку спалучэнне літар **дз**, як паказана на ўзоры.




**56.** Спішыце словы. Падкрэсліце спалучэнне літар **дз**.




• Вусна перакладзіце словы на рускую мову.

**57.** Прачытайце. Правільна вымаўляйце сло-
са спалучэннем літар ***дз***.

— Не шуміце, дзеці! Ціха! —
кажа мама вераб'іха. —
У Мурлыкі добры слых,
ён пачуе вас, малых.
Каб не здарыцца бядзе,
Дзеткі, сціхніце ў гняздзе.

*С. Бестава*

**58.** Спішыце словы, устаўляючы замест кро-
к спалучэнне літар ***дз***.

Ня..еля, паня..елак, чара..ей, паса..іў.



*Нядзе́ля* — воскресенье.

**59.** Назавіце словамі тое, што намаляваў мас-
к. Запішыце словы. Вусна складзіце з імі сказы.









**Словы для даведкі:**
*зённік, дзяўчынка, кракадзіл.*



**60.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэслі-
це словы са спалучэннем літар ***дз***.

Дзеці хадзілі ў заапарк. Там яны ба-
чылі мядзведзя і дзіка́.

## Гук [дж] і яго абазначэнне на пісьме



**61.** Прачытайце. Выразна паўтарыце словы з гукам [дж].

— Спалучэнне літар ***дж*** абазначае гук [дж], падобны на гудзенне жу-
ка. Каб яго вымавіць, трэба кончыкам языка дакрануцца да дзёснаў над верхнімі зубамі: *ваджу, ураджай, нараджэнне.*

**62.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце словы. Раскажыце, як літары ***д*** і ***ж*** «працуюць» разам.



3. Напішыце ў сшытку спалучэнне літар ***дж***, ...аказана на ўзоры.

*дж дж дж Дж Дж Дж*

4. Прачытайце словы. Спішыце іх. Падкрэс... спалучэнне літар ***дж.***

*Дождж... ураджай.*

● Вусна перакладзіце словы на рускую мову.

**65.** Прачытайце. Правільна вымаўляйце [дж].

Я пасаджу слівы і вішні. Іх пальюць ...жджы. Ураджай будзе добры. Мы зварым з ягад смачны джэм.

***до́ждж — дажджы́***

**66.** Прачытайце. Параўнайце вымаўленне вы...еленых слоў у рускай і беларускай мовах.

| | |
|---|---|
| Я **хожу** по лесу. | Я **хаджу** па лесе. |
| Я **бужу** брата. | Я **буджу** брата. |
| Я **сажаю** цветы. | Я **саджаю** кветкі. |

● Выпішыце з другога слупка словы са спа...учэннем літар ***дж.***

**67.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце сло...вы са спалучэннямі літар ***дз*** і ***дж.***

У нядзелю мы ездзілі да дзядулі. У яго быў дзень нараджэння. Мы прывезлі яму саджанцы вішань і груш.

**68.** Прачытайце вершы. Сачыце за вымаўленнем гукаў [дз'] і [дж].



Хлопчык сцежкаю ідзе  
ды іграе на дудзе.  
Дзесяць дзірачак у ёй,  
і ў кожнай голас свой.

Джаліць пчолка Надзю колка  
джалкам вострым, як іголка.



**69.** Прачытайце. Растлумачце сэнс прыказак.

1. Рана ў поле выязджай — будзе добры ўраджай. работать

2. Будзеш працаваць — будуць людзі паважаць.

● Спішыце. Падкрэсліце спалучэнні літар ***дз*** і ***дж.***

**70.** Прачытайце ўслых. Правільна вымаўляй-
гукі [дз'] і [дж].

Кожны з нас ведае свой **дзень нара-**
**эння.** А вось калі нараджаюцца кветкі?
Кветкі нараджаюцца, калі **прыходзіць**
:на. Кожны **тыдзень** зацвітаюць **дзесят-**
раслін.
Усё вакол робіцца такім прыгожым!
нь **маладзенькая** вярба, як модніца,
ідзіцца ў **вадзіцу** і прымярае завуш-
цы — жоўтыя пухнацікі.

*Паводле М. Бусько*

● Выпішыце выдзеленыя словы, падкрэсліце
х спалучэнні літар ***дз*** і ***дж***.



*Ты́дзень* — неделя.



**71.** Прачытайце. Паўтарыце словы і выразы ветлівасці.

Віншую цябе з днём нараджэння!
Я хачу запрасіць цябе ў госці.
Прыходзь, калі ласка, да мяне на дзень нараджэння.
Шчыра дзякую за запрашэнне.

***72.** Павіншуйце суседа па парце з днём нараджэння, а ён няхай падзякуе вам і запросіць вас у госці.

У з о р:

— З днём нараджэння! Жадаю табе здароўя і верных сяброў!

— Дзякуй табе за добрыя словы. Прыходзь, калі ласка, да мяне ў нядзелю а трэцяй гадзіне.

— Дзякую за запрашэнне. Абавязкова прыйду.



*А трэ́цяй гадзі́не* — в три часа.

**73.** Прачытайце.

Курган — насып у гонар славутых лю..ей або па..ей. Недалёка ад Мінска ёсць Курган Славы.



● Спішыце. Устаўце замест кропак спалучэнне літар ***дз***.

**74.** Прачытайце загадку і выберыце адгадку.
...ішыце, устаўце спалучэнне літар ***дз*** або ***дж***.

Ад сонца нара..аецца,
За ўсімі ён ганяецца.
Як толькі сонца зой..е,
Яго ніхто не зной..е.

*У. Мацвеенка*

Словы для даведкі: *дзень,* ...*нак, цень, сонечны зайчык.*

***75.** Разгледзьце малюнак. Якія адрозненні ...ларускай мовы ад рускай на ім паказаны?




**76.** Прачытайце і адгадайце загадку.

Я такая чароўная,
сярод кветак галоўная —
Не адвесці вачэй.
Адгадай жа хутчэй,
Як завуць мяне, дружа.
А імя маё — ... .

● Вымавіце гукі, якія абазначаны выдзеленымі літарамі. Ці ёсць такія гукі ў рускай мове?



*Чаро́ўная* — прелестная, очаровательная.
*Хутчэ́й* — быстрее.



**77.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце літары, якіх няма ў рускай мове.

Леў забыўся, дзе жыве:
Ці ў кустах, ці ў траве,
Бо прывабныя для льва
І кусты, і трава.

*У. Марук*



*Прыва́бныя* — привлекательные, заманчивые.

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

**1.** Якіх беларускіх літар няма ў рускай мове? Назавіце іх.

**2.** Як трэба вітацца па-беларуску? Як трэба развітвацца?

**3.** Якімі з'яўляюцца беларускія гукі [р] і [ч]: цвёрдымі ці мяккімі?

**4.** Якія гукі беларускай мовы абазначаюцца дзвюма літарамі?

**5.** Перакладзіце словы *девочка, открытка, словарь* на беларускую мову і запішыце пераклад.

**6.** Запішыце пад дыктоўку слоўнікавыя словы: *адказ, відэлец, гарбуз, дождж, калідор, кватэра, лесвіца, ластаўка, ручнік, цыбуля, яблык.*

# ГУКІ І ЛІТАРЫ

## Гукі мовы



— Каб атрымалася слова, трэба вымавіць адзін за адным некалькі гукаў мовы. Якое слова атрымаецца, калі першым «загаворыць» гук [м], другім — гук [о], трэцім — [в], а чацвёртым — [а]? А якія гукі павінны «загаварыць», каб прагучала слова *школа*?

**Словы складаюцца з гукаў мовы. Гукі мы чуем і вымаўляем.**

**78.** Прачытайце. З якіх гукаў складаюцца словы?

Бор, музыка, трактар, сонца, хор.

● Якія словы адрозніваюцца толькі адным гукам? Запішыце іх.

**79.** Уявіце сабе, што сустрэліся гукі [о], [н] і [с]. Якія словы могуць з іх атрымацца?

2. Зак. 2696.

**80.** Прачытайце верш. Назавіце ўсе гукі ў выдзеленых словах.

О мова беларуская! **Твой** гук заўсёды
Як **рэха** даўніх дзён.
Ты — мова мірнага, **сардэчнага** народа,
Ніў, пушчаў перазвон.

*В. Гамуліцкі*



*Ніў* (ад *ні́ва*) — полей.
*Рэ́ха* — эхо.
*Заўсёды* — всегда.

***81.** Якія гукі можна ўставіць, каб атрымаліся розныя словы?

[с] [..] [м] [с] [..] [к]
[р] [..] [к] [а] [к] [..] [т]
[ч] [..] [с] [т] [а]

**82.** Замяніце першыя гукі слоў так, каб атрымаліся новыя словы. Запішыце словы парамі.

Узор: *рак — мак.*

Раса — ... ; кара — ... ; цень — ... ; Маша — ... .





**83.** Прачытайце скорагаворкі. Патрэніруйцеся хутка вымаўляць іх.



1. На карме карабля карміліі краба.
2. Пад пятым пяньком Пеця папаў пяткай па апеньках.

• Назавіце гукі, якія часцей за іншыя паўтараюцца ў першай скорагаворцы.



**84.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Словы-адгадкі запішыце. З якіх гукаў яны складаюцца?

1. Свечак многа гарыць, а ніводнай не патушыць.
2. Распластала птушка крылы, ажно сонца засланіла.

• З чым параўноўваюцца зоркі і хмара ў гэтых загадках?



# Галосныя і зычныя гукі



**85.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

— Калі мы вымаўляем словы, нашы губы, зубы і язык рухаюцца. Паветра бяжыць міма іх — і ствараецца шум. Галасавыя звязкі пачынаюць дрыжаць — атрымліваецца голас. І мы чуем гукі.

- З чаго ўтвараюцца гукі?

Гукі чалавечай мовы ўтвараюцца голасам, шумам або голасам і шумам аднachасова.

**86.** Які гук тут лішні? Чаму?

[а], [о], [ы], [б], [і], [у], [э].






Гукі мовы бываюць галосныя і зычныя.

**Галоснымі** называюцца гукі, якія ўтвараюцца толькі голасам: [а], [і], [о], [у], [э], [ы].

Гукі, якія ўтвараюцца голасам і шумам, называюцца **звонкімі зычнымі**: [б], [в], [г], [д], [дз'], [ж], [дж], [з], [й], [л], [м], [н], [р], [ў].

Гукі, якія ўтвараюцца толькі шумам, называюцца **глухімі зычнымі**: [к], [п], [с], [т], [ф], [х], [ц], [ч], [ш].

**87.** Прачытайце загадку і адгадайце яе.

Я **хаджу**, нібыта ў тапках,  
Кіпцюркі ў мяне на лапках.  
Я без мыла, без вады  
Мыю сам сябе заўжды.

- Колькі гукаў у выдзеленым слове? А колькі ў ім літар? Назавіце звонкія і глухія зычныя гукі ў слове *лапках*.



*Кіпцю́ркі* — коготки.  
*Заўжды́* — всегда.

**88.** Прачытайце. Спішыце. Як вы разумееце сэнс гэтай прыказкі?

Усякай птушцы сваё гняздо міла.

● Колькі ў кожным слове галосных і зычных гукаў? Назавіце іх.

***89.** Якія зычныя гукі трэба дадаць, каб атрымаліся словы?

1. [..] [ы] [..] [а] — жыве ў вадзе, мае плаўнікі і жабры.
2. [..] [а] [..] [а] — драпежная птушка з вялікімі вачамі і кручкаватай дзюбай.
3. [..] [о] [..] [а] — тое, з дапамогай чаго людзі выказваюць свае думкі.

***90.** У словах пераблыталіся гукі. Дапамажыце ім стаць на свае месца.

[н] [с] [ы]; [т] [с] [о] [л];
[ш] [ы] [к] [м] [а].

**91.** Прачытайце верш. Якія зычныя гукі часта паўтараюцца ў ім?

Пад шатром густых ляшчын
Гушчарок чароту.
Чуеш? Чвякаюць ляшчы,
Збіўшыся ў чароды.

*А. Вялюгін*



*Чаро́т* — камыш.
*Чарада́* — стая.

● Патрэніруйцеся чытаць гэты верш хутка. Правільна вымаўляйце [шч].



**92.** Да першай часткі кожнай прыказкі падбярыце другую частку. Атрыманыя прыказкі запішыце.

Спачатку **падумай**, ... *многа* ***зробіш.***
Рана ўстанеш — ... *потым* ***гавары.***

● У выдзеленых словах назавіце ўсе гукі. Вызначце, якія яны: галосныя ці зычныя, звонкія ці глухія зычныя.



## Абазначэнне гукаў на пісьме



**93.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

— Гукі гучаць і знікаюць. Старажытныя людзі доўга шукалі спосаб «затрымаць» гукі. І нарэшце прыдумалі літары — пісьмовыя значкі для гукаў. Кожная літара — гэта быццам партрэт гука на паперы.

- Для чаго людзі прыдумалі літары?

Літара — гэта знак для абазначэння гука на пісьме.

Галосныя гукі абазначаюцца галоснымі літарамі: ***а, о, у, ы, э, я, ё, ю, і, е.***

Зычныя гукі абазначаюцца зычнымі літарамі: ***б, в, г, д, ж, з, й, к, л, м, н, п, р, с, т, ў, ф, х, ц, ч, ш.***

Літара ***ь*** гука не абазначае.

**94.** Прачытайце верш.

Літары ад А да Я —
пчолак дружная сям'я —
носіць мёд у соты ведаў,
просіць, каб усё ты ведаў.

*Р. Барадулін*

- З чым аўтар параўноўвае літары?
- Выпішыце з верша словы, якія складаюцца з трох гукаў і запісваюцца з дапамогай трох літар.

**95.** Прачытайце загадку.



Запрашаю адгадаць
Дзівака дзівоснага:
Пальцаў — два разы па пяць,
Ногця ж — аніводнага.

- Запішыце адгадку да гэтай загадкі. Падкрэсліце ў адгадцы літару, якая не абазначае гука.



**96.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

— У нашай мове ёсць прыгожы гук [дз']. Яго абазначаюць спалучэннем літар ***дз***. Кожная з гэтых літар паасобку абазначае свой гук. Але паслухайце, як спявае гук, які ***д*** і ***з*** абазначаюць разам: *дзень*! Гэта як гук тонка нацятай струны: *дзень*! І наша вуха ўжо

ўлавіла і звон сонечнай цішыні летняга дня, і прастору чыстага высокага неба, і нават палёт пчалы.

*Паводле В. Віткі*

- Як гук [дз’] абазначаецца на пісьме?
- З чым аўтар параўноўвае гук [дз’]?

**97.** Прачытайце. Знайдзіце і выпішыце словы, у якіх зычны гук абазначаецца дзвюма літарамі.

Толя часта хадзіў у грыбы. Сёлета на іх быў добры ўраджай. У хлопчыка была свая палянка ў лесе. Там расло шмат баравікоў і сыраежак. Аднойчы Толя ўбачыў там дзіка. Звер узрываў дзёран і еў нейкія карэньчыкі.

*Я. Галубовіч*



*Сёлета* — в этом году.

**98.** Спішыце. Устаўце спалучэнне літар ***дж*** або ***дз***.

**Дзіма** дзеда запрашаў,
Каб у госці прыяз..аў:
Пагля..іць няхай дзядуля,
Колькі дрэў ён **наса..аў.**



- Назавіце гукі ў выдзеленых словах. Колькі літар у кожным з гэтых слоў?



**99.** Прачытайце, устаўляючы патрэбныя словы.

1. Шпакі доўга не адлятаюць — ... сухая.
2. Што летам прызапасіш — зімой як ... .
3. Зімовы дзянёк што ... насок.
4. Добры ... вясной не пашкодзіць.

Словы для даведкі: *дождж, знойдзеш, восень, камароў.*

- Спішыце. Ва ўстаўленых словах галосныя літары падкрэсліце адной рыскай, а зычныя — дзвюма.

## Беларускі алфавіт



**100.** Прачытайце загадку і адгадайце яе.

Літары ў ім, як байцы на парад,
Строгім парадкам пастаўлены ў рад.
Усе яны пэўнае месца знайшлі там,
А назавём гэта ўсё ... .

**Алфавітам,** або **азбукай,** называюцца ўсе літары мовы, размешчаныя ў пэўным парадку.

**101.** Прачытайце назвы літар беларускага алфавіта.

| Літары | Назвы літар | Літары | Назвы літар |
|---|---|---|---|
| **А а** | *а* | **П п** | *пэ* |
| **Б б** | *бэ* | **Р р** | *эр* |
| **В в** | *вэ* | **С с** | *эс* |
| **Г г** | *гэ* | **Т т** | *тэ* |
| **Д д** | *дэ* | **У у** | *у* |
| **Е е** | *е* | **ў** | *у* нескладовае |
| **Ё ё** | *ё* | **Ф ф** | *эф* |
| **Ж ж** | *жэ* | **Х х** | *ха* |
| **З з** | *зэ* | **Ц ц** | *цэ* |
| **І і** | *і* | **Ч ч** | *чэ* |
| **й** | *і* нескладовае | **Ш ш** | *ша* |
| **К к** | *ка* | **ы** | *ы* |
| **Л л** | *эл* | **ь** | мяккі знак |
| **М м** | *эм* | **Э э** | *э* |
| **Н н** | *эн* | **Ю ю** | *ю* |
| **О о** | *о* | **Я я** | *я* |



- Колькі літар у беларускім алфавіце?
- Назавіце літары, якіх няма ў рускім алфавіце. Запішыце тры словы з літарай **ў**.
- Вывучыце беларускі алфавіт на памяць.



**102.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

— Алфавіт вельмі патрэбны людзям. У алфавітным парадку стаяць словы ў слоўніках і звесткі ў даведніках (напрыклад, у тэлефоннай кнізе). Спіс вашых прозвішчаў у класным журнале таксама складзены па алфавіце.

- Чаму кожны чалавек павінен добра ведаць алфавіт?

**103.** Прачытайце гумарэску.

— **Петрык,** ці ведаеш ты алфавіт?
— Так.
— Якая літара ідзе пасля А?
— Усе астатнія.

- Ці ведаў на самай справе Петрык алфавіт?
- Назавіце ўсе літары ў выдзеленым слове. Запішыце іх у алфавітным парадку.

**104.** Прачытайце. Запішыце словы ў алфавітным парадку.

Бульба, агурок, морква, цыбуля, салата, фасоля, часнок.

Пры размяшчэнні па алфавіце слоў, якія пачынаюцца з адной і той жа літары, трэба ўлічваць месца другой літары ў алфавіце — *вейкі, вока, вусны.*

**105.** Прачытайце. Выпішыце назвы звяроў у алфавітным парадку.

У беларускіх лясах жывуць розныя звяры: вожык, заяц, ваверка, куніца, дзік. Многа тут і буйных жывёл, такіх, як зубр, лось, мядзведзь. На берагах рэк селяцца бабры, выдры, норкі. Ёсць у нашых лясах і драпежнікі. Гэта воўк і рысь.

- Палічыце, колькі гукаў і літар у словах *лось* і *дзік*.
- У якім парадку вы размясцілі словы *вожык, выдра, вавёрка*? Чаму?





**106.** Прачытайце верш.

**Дажджавая вада**

Ранкам дождж наліў вады
У каровіны сляды.
Першым гэтае вадзіцы
Голуб прыляцеў напіцца.
Потым ластаўка і шпак,
Кроплю зачарпнуў гусак.

*С. Бестава*

- Выпішыце назвы птушак у алфавітным парадку.

## Склад. Перанос слоў



**107.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

— Гукі ў слове, як правіла, вымаўляюцца не паасобку, а невялікімі групамі — **складамі.** Гукі ў складзе моцна трымаюцца адзін за аднаго, бо вымаўляюцца адным штуршком паветра: *ве-чар, па-штоў-ка, ся-бры, пра-ца-ваць.*

- Як вымаўляюцца гукі ў слове?

**108.** Прачытайце па складах. Вызначце, колькі галосных гукаў у кожным складзе.

І-дзе дож-джык. Све-ціць со-ней-ка. Буй-ны-я даж-джын-кі па-да-юць на ма-ла-дзень-ку-ю траў-ку.

- Заўважце, як дзеляцца на склады словы з гукамі [ў], [й], [дж], [дз'].

**Складам** называецца спалучэнне гукаў, якое вымаўляецца адным штуршком паветра: *ка-ман-да, зай-чык.*

Склад можа быць адзін галосны гук: *і-ду, а-ку-ля-ры.*

Колькі ў слове галосных гукаў, столькі ў ім і складоў.



**ГУК** (1 склад) **БУ-СЕЛ** (2 склады)

**СЯ-БРОЎ-СТВА** (3 склады)

**109.** Прачытайце. Колькі складоў у кожным слове?

Пісьмо, агонь, край, асіна, дзяўчынка.

- Спішыце словы, падзяляючы іх на склады.
- Падкрэсліце словы, якія маюць адзін склад.

**110.** Прачытайце скорагаворкі. Якія падобныя па гучанні склады чаргуюцца ў словах?

1. Макар камара злавіў ля двара.
2. Наш Назарка на зары быў у цёмным гушчары.
3. Раманка ранкам рана ўстаў.

*А. Дзеружынскі*



*Гушча́р* — чаща.

- Спішыце першую скорагаворку. Спісваючы, дзяліце словы на склады.

**111.** Гульня «Складзі слова са складоў».

| | | |
|---|---|---|
| ка, во | век, ла, ча | ба, ку, чак |
| сна, са | бей, ве, ра | дзе, ня, ля |

- Словы, якія вы склалі, запішыце.

Дзяліць словы на склады і для пераносу — гэта не адно і тое ж. Пры пераносе **нельга:**

- пакідаць на радку ці пераносіць на іншы адну літару — *юнак, зі-мою;*
- аддзяляць літары ***й, ў, ь*** ад папярэдняй літары — *пян**ь**-кі, ма**й**-ка, сябро**ў**-ка;*
- падзяляць спалучэнні літар ***дз*** і ***дж*** — *лю-**дз**і, ся-**дж**у.*

**112.** Спішыце. Падзяліце словы для пераносу.

Узор: *май-скі, аў-тобус* ці *аўто-бус.*

Праўда, плошча, пайшлі, поўдзень, канькі, **вадзіць, саджу.**

- Вызначце, колькі складоў у выдзеленых словах. Колькі гукаў і літар у кожным складзе?

**113.** Як падзелены наступныя словы: на склады ці для пераносу?

Ча-равікі, разу-мець, па-равоз, пад-ручнік, капя-люш.

- Як яшчэ можна перанесці гэтыя словы? Запішыце іх, падзяліўшы для пераносу па-іншаму.





**114.** Прачытайце.

Разляглася ў полі зіма, распусціла сівыя космы. Служаць зіме верныя слугі — **калючы** вецер ды пякучы мароз. Абодва **сярдзітыя.**

Калючы вецер лісце з дрэў абтрос, траву ў полі высушыў. А пякучы мароз скаваў зямлю і рэчкі лядовымі **аковамі. Застаўся** ў марозу ды ветру толькі адзін клопат — вартаваць спакой матухны зімы.

*А. Асіпенка*

- Спішыце выдзеленыя словы. Падзяліце іх спачатку на склады, а потым для пераносу.

## Націск



**115.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

— Адзін са складоў у слове вымаўляецца больш моцна і працяжна. Пра галосны гук у такім складзе гавораць, што на яго падае **націск.**

Ад націску можа залежаць значэнне слова: *вару **ка́шу** — **кашу́** траву, **плачу́** за праезд — **пла́чу** ад крыўды.*

● Як вымаўляецца ў слове склад, на які падае націск?

**116.** Прачытайце жарт. Колькі складоў у кожным слове? Які склад вымаўляецца больш моцна, з націскам?

### Акуляры

— Чаго ты ў цёмных акулярах
ідзеш у школу, Ігарок?
— Каб па вачах не знаў настаўнік,
што я не вывучыў урок.

*А. Дзеружынскі*






**Націскным** называецца склад, які вымаўляецца мацней за іншыя склады слова: ***во́**-сень, вяр-**ба́**, кра-пі-**ва́**.*

Склады без націску — **ненаціскныя.**

**117.** Прачытайце. Назавіце націскныя і ненаціскныя склады ў выдзеленых словах.

Маміны рукі самыя лепшыя:
Няньчылі, гу́шкалі, **лашчылі** першыя.
Маміны рукі сардэчныя, смелыя.
Маміны рукі самыя **ўмелыя.**

*П. Прануза*

● Ці згодныя вы з паэтам, які сцвярджае: «Маміны рукі самыя лепшыя»? Чаму?

***дзве́ры***

**118.** Прачытайце словы. Назавіце ў іх націскныя склады.

Дзверы, лінейка, крэйда, сшытак, падручнік, кніга, званочак, настаўнік, дзяжурны, лес, зялёны, дождж, вясёлка.

● Выпішыце словы з націскам на першым складзе.

3а. Зак. 2696.

**119.** Разгледзьце малюнак. Запішыце ў сшытак назвы адзення. Пастаўце ў словах націск.



кашуля
чаравікі
сукенка
камізэлька
капялюш
штаны

**120.** Прачытайце словы. Правільна вымаўляйце іх.

До́шка, дачка́, імя́, ваўкі́, аку́нь, некато́ры, малы́, мале́нькі, **стары́**, старэ́нькі, адзіна́ццаць, **крапіва́**, сме́шны.

• Прыдумайце сказы з выдзеленымі словамі. Запішыце складзеныя сказы.



**121.** Спішыце словы. Пастаўце ў іх націск. Падкрэсліце націскныя склады.

Заляпіла, машына, правіла, вільгаць, цана.





*Ві́льгаць* — влага.
*Цана́* — цена.

• Прачытайце адзін за адным націскныя склады ў словах. Якая парада атрымалася?

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Якія гукі называюцца галоснымі?
2. Якія гукі называюцца зычнымі?
3. Чым адрозніваюцца звонкія зычныя ад глухіх?
4. Назавіце ўсе гукі ў словах *адзіны*, *лоўка*. Якія гэта гукі?
5. Раскажыце беларускі алфавіт на памяць.
6. Як правільна дзяліць слова пры пераносе?
7. Які склад націскны ў словах *імя*, *малы*, *стары*, *смешны*, *нажніцы*?

## ГАЛОСНЫЯ ГУКІ І ЛІТАРЫ

### Галосныя гукі [о], [э] — [а]. Правапіс слоў з літарамі *о, э — а.*



— Гукі [о], [э], [а] — добрыя сябры, але па характары і звычках яны адрозніваюцца. Гукі [о], [э] згодныя быць толькі пад націскам. Гук [а] не такі капрызны. Ён добра сябе адчувае і пад націскам, і ў ненаціскных складах: *рэ́кі — рака́, но́гі — нага́.*




**122.** Прачытайце словы парамі.

но́ры — нара́  грэ́бень — грабе́ньчык
го́ры — гара́  цэ́ны — цана́



*Грэ́бень* — расческа.

- Якія галосныя гукі вымаўляюцца ў націскных складах?
- Якія гукі «збеглі», калі націск перайшоў на іншы склад? Які гук вымаўляецца замест іх?

У беларускай мове галосныя [о], [э] бываюць толькі пад націскам. Не пад націскам замест іх гучыць [а]: *ст*[о́]*л* — *ст*[а]*лы́*, *ш*[э́]*пт* — *ш*[а]*пта́ць.*

Гукі [о], [э], [а] перадаюцца на пісьме літарамі ***о, э, а:*** *хо́лад — хало́дны, рэ́чка — рака́.*

**123.** Прачытайце. Выпішыце словы з выдзеленымі літарамі.

Каб мы **цэ**глу адшукалі —
дом **ца**гляны б збудавалі.

Па расе без чаравік
выйшаў з **бо**ру **ба**равік.

*Д. Бічэль-Загнетава*



*Цэ́гла* — кирпич.
*Чаравікі* — ботинки.

● Які з выдзеленых складоў націскны, а які — ненаціскны? Якія галосныя літары ў іх пішуцца?

**124.** Прачытайце словы парамі. Чаму ў выдзеленых складах гэтых слоў вымаўляюцца розныя галосныя гукі?

**го**рад — **га**рады
**цэ**гла — **ца**гліна
**жо**луд — **жа**луды
**цэ**дзяць — **ца**дзіць





**125.** Прачытайце верш. Вызначце націскныя склады і растлумачце правапіс **о**, **э** ў выдзеленых словах.

Ужо **мароз**. Пасохлі травы,
на дрэвах дзе-нідзе **лісток**.
І **вожык**, наш звярок рухавы,
аблюбаваў для сну **куток**.

*Ч. Навіцкі*



*Руха́вы* — подвижный, шустрый.
*Куто́к* — уголок.



**126.** Змяніце словы па ўзоры. Запішыце пары слоў, пастаўце націск. Падкрэсліце галосныя літары ў першых складах.

*ро́біць* — *рабі́лі*　　*го́ры* — *гара́*
косіць — …　　козы — …
водзіць — …　　косы — …

***127.** Прачытайце. Устаўце патрэбныя словы.

Міша … у першы клас. … у школу яму недалёка. Школа стаіць за … . Зімой … — добры каток для дзяцей. … скаваў ваду ў … . Але … не палохаюць дзяцей.

Словы для даведкі: *маразы, рэчцы, рака, рэчкай, ходзіць, хадзіць, мароз.*

● Спішыце. Падкрэсліце ўстаўленыя словы. Растлумачце іх правапіс і абазначце націск.

**128.** Прачытайце. Перакладзіце вусна на рускую мову.

Блакітны, сіні, чырвоны, зялёны, карычневы, шэры, белы, чорны.

● Выпішыце словы з літарамі **о** і **э**, растлумачце правапіс гэтых слоў.



**129.** Прачытайце. Якія літары трэба ўставіць? Растлумачце іх напісанне. Спішыце першыя два сказы.

С..сны растуць на сухім пясчаным мес-
ы. **Кожная** с..сна можа жыць больш за
этню гадоў. Елкі растуць і на балоціс-
ай глебе. Ств..л у елкі роўны і прамы.

• Вусна падзяліце выдзеленае слова на
клады.

## Правапіс слоў з літарамі *е, ё — я*



**130.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

— Я раскажу вам пра літары ***е***, ***ё***, ***я***. ***Ё*** сустракаецца толькі ў на-
іскных складах: *лёгкі, сёння*. ***Е*** бывае і
ад націскам, і не пад націскам: *ве́расень,*
*еснавы́*. Літара ***я*** замест ***е***, ***ё*** пішацца
олькі ў першым складзе перад націскам:
*ясёлка, святло́*.

• Якая з літар ***(е, ё, я)*** ужываецца толькі ў
ацісных складах?

• Якая літара ***(е, ё, я)*** пішацца ў першым
кладзе перад націскам?



**131.** Прачытайце словы парамі. Якія літары пішуцца ў націскных складах, якая — у першым складзе перад націскам?

| | |
|---|---|
| землі — зямля | вёсны — вясна |
| сем'і — сям'я | вёдры — вядро |
| дзень — дзянёк | лёд — лядок |

• Спішыце. Пастаўце націск, падкрэсліце першы склад перад націскам.

У з о р: *зе́млі — зямля́*.

> У беларускай мове замест літар ***е*** і ***ё*** ў першым складзе перад націскам пішацца ***я***: *ве́-цер — вятры́, цё-плы — цяпло́*.



**132.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту выдзе-
эныя словы. Пастаўце ў іх націск. Падкрэсліце
эршы склад перад націскам.

У парку расце высокая **бяроза.** Вузкая
**цяжынка вядзе** да яе. На бярозе вісяць
армушкі для птушак.

• Якая літара пішацца ў першым складзе пе-
ад націскам?

**133.** Змяніце словы па ўзоры. Запішыце іх,
астаўце націск. Падкрэсліце галосную літару ў
ершым складзе перад націскам.

*лес — лясы* *дзень — дзянёк*
след — ... цень — ...

*сёстры — сястра*
мётлы — ...

**134.** Прачытайце. Якія літары «схаваліся» за
ропкамі?

Там, дзе быстраю хваляю рэчка плыве
У д..ліне між ц..мнага лесу,
Прытаіўся высокі з..лёны курган
Пад плакучых б..розак зав..сай.

*К. Буйло*





**135.** Прачытайце словы ў правым слуп-
ку. Назавіце прапушчаныя літары.

| | |
|---|---|
| **малы́** пасёлак | п..рэднія |
| **су́мны** настрой | в..лікі |
| **спелыя** яблыкі | в..сёлы |
| **заднія** колы | з..лёныя |



*Су́мны* — грустный.

• Падбярыце да выдзеленых слоў процілег-
лыя па сэнсе словы з правага слупка. Запішыце.

У з о р: *сумны настрой — вясёлы на-
строй.*

**136.** Прачытайце. Пра якую кладоўку тут рас-
казваецца?

Ёсць на свеце цудоўная кладоўка. Па-
кладзе́ш у яе **в..сной м..шок** зе́рня, а ўво-
сень, глядзіш, заме́ст аднаго **м..шка** ў
кладоўцы ўжо дваццаць. **В..дро** бульбы ў
цудоўнай кладоўцы ператвара́ецца ў двац-
цаць **вёдз..р.** Жме́нька насе́ння робіцца
**в..лікай** кучай радыскі, памідораў, морквы.
Цудоўная кладоўка — гэта **з..мля.**



*Жме́ня, жме́нька* — горсть, горсточка.
*Насе́нне* — семена.

- Як вы думаеце, чаму зямля з'яўляецца цудоўнай кладоўкай?
- Выпішыце выдзеленыя словы, устаўце прапушчаныя літары.

**137.** Прачытайце верш.

**Мары**

Калі б я доктарам была,
дастала б болей лекаў
і дзецям хворым памагла,
каб ім жылося лепей.
Калі б была будаўніком,
сваімі б я рукамі
для іх пабудавала дом
з шырокімі дзвярамі.

*Л. Монід*

- Чаму ў словах *лекі, дзверы, дзеці* пішам **е**, а ў словах *лячыць, дзвярамі, дзяцінства* — **я**?
- Складзіце вуснае апавяданне на тэму «Калі я стану дарослым».



**138.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

Слух..ць, к..заць, р..зумець, пер..кладаць, мал..ваць, сп..ваць.

- Назавіце словы, у якіх у першым складзе перад націскам пішацца ***я***.
- Вусна перакладзіце словы на рускую мову.
- Прыдумайце і запішыце сказ са словам *разумець*.




***139.** Прачытайце верш. Якога звярка апісвае аўтар?

Белашчокі, з шэрсткай шэрай,
сам, як мыш, — малы такі,
а за шчокамі — **«мяшкі»**,
бы ў штанах маіх кішэні.

Калі ты **сядзіш ясі,**
падбяжыць і смешна шчоўкне.
Запіхне ўсё за шчокі,
што яму ты ні дасі.

*Х. Гурыновіч*



*Кішэ́нь* — карман.

● Да слоў *мех, есці, сесці* выберыце з верша вылучаныя словы, у якіх замест **е** пішацца **я**.

● Запішыце ўтвораныя пары слоў.

● Ці ёсць жывёлы ў вас дома? Што цікавае вы можаце пра іх расказаць?

**140.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

Воз..ра, сіняе вока,
Знізу гл..дзела ўверх.
Н..ба блакітнаю вокладкай
Абгарнула сусвет.

*А. Камоцкі*

*Во́кладка* — обложка.
*Сусве́т* — мір.

***во́кладка***

● Знайдзіце і прачытайце радкі, дзе паэт апісвае неба так, быццам яно жывая істота.



**141.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Запішыце іх разам з адгадкамі. Растлумачце напісанне прапушчаных літар.

1. Свеціць і грэе, в..сяліць і ззяе, усю з..млю ажыўляе.

2. Без с..керы і цвікоў збудава́ны круглы дом.

Словы для даведкі: *сонца, сякера.*



*Сяке́ра* — топор.

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Раскажыце правіла напісання літар *о, э, а* ў беларускай мове. Прывядзіце прыклады.

2. Калі ў беларускай мове пішуцца літары *е, ё, я*? Прывядзіце прыклады.

3. Растлумачце правапіс выдзеленых літар у словах: *земляны, цеплавы, веснавы, рэчка, рачулка, сосны, сасонка.*

## Цвёрдыя і мяккія зычныя гукі. Іх абазначэнне на пісьме

— Сярод гукаў ёсць сваякі. Напрыклад, [м] і [м'] — родныя браты. Параўнайце, якія яны падобныя: *мала — мяла, па модзе — аб мёдзе.* ...ны нават адной літарай абазначаюцца ... пісьме!

Цвёрдыя і мяккія зычныя гукі сяб...уюць з рознымі галоснымі літарамі. ...вёрдыя — з літарамі ***а, о, э, у, ы.*** Мяк...я — з літарамі ***ё, е, і, ю, я, ь.***

*мя́ккі*

**142.** Прачытайце словы парамі. Назавіце цвёр...ыя і мяккія гукі, якія абазначаны выдзеленымі ...тарамі.

| | |
|---|---|
| ры**с** — ры**сь** | пі**с**аць — пі**сь**мо |
| шко**л**а — шко**ль**нік | вуга**л** — вуга**ль** |

● Як перадаецца на пісьме мяккасць гэтых ...каў?




Вожык і пчолкі любяць працаваць

**143.** Прачытайце. Назавіце спачатку словы з цвёрдымі зычнымі гукамі на канцы, потым — з мяккімі.

Восень, снежань, верасень, ноч, пыл, корань, лагер, студзень, палын, варатар.



*Сне́жань* — декабрь.
*Сту́дзень* — январь.
*Ве́расень* — сентябрь.
*Пыл* — пыль.

**144.** Падбярыце да кожнага слова з левага слупка пару з правага слупка. Якімі гукамі адрозніваюцца гэтыя словы?

| | |
|---|---|
| **воз** | **сяджу** |
| **лук** | **вёз** |
| **саджу** | **люк** |

• Запішыце словы парамі. Падкрэсліце галосныя літары пасля выдзеленых зычных.

Мяккасць зычных гукаў абазначаецца на пісьме літарамі ***е, ё, і, ю, я, ь:*** ***месяц, мёд, ліст, людзі, цень.***

**145.** Прачытайце і адгадайце загадку.



Зялёны вожык залез у кошык —
Там чарназём.
Сядзіць, калючы, і хваліць
кошык:
— Утульны дом!

*А. Клышка*

• Назавіце ў словах мяккія зычныя гукі. Якімі галоснымі літарамі абазначаецца іх мяккасць на пісьме?



**146.** Дапамажыце словам *вугал, вугаль, стол, столь* знайсці месца ў сказах. Запішыце сказы.

1. У пакоі пабялілі … . 2. Мы купілі новы … . 3. Каменны … здабываюць у шахтах. 4. Пешаход павярнуў за … дома.



*Столь* — потолок.



**147.** Прачытайце. Спішыце. Замест кропак устаўце патрэбныя галосныя літары.

1. На двары шалёна в..ў вецер. Дзед в..ў вяроўку.

2. Наш клас б..ў на экскурсіі. Дождж з градам б..ў у вокны.

3. М..ла ўзяла м..ла і сама пам..ла насавыя хустачкі.

**148.** Прачытайце словы. Вусна перакладзіце іх на рускую мову. Параўнайце гучанне беларускіх і рускіх слоў.

Сем, восем, стэп, накіп, насып, верф, глыб.



*Верф* — месца, дзе будуюць і ра-
мантуюць караблі.

Зычныя гукі [п], [м], [ф] на канцы
слоў у беларускай мове заўсёды вы-
маўляюцца цвёрда: *насып, сем, верф*.




**149.** У якіх словах патрэбны **ь**? Выпішыце
тыя словы.




Рэмен.., бінокл.., рос-
ып.., ветраз.., нул.., пе-
ен.., акварэл.., стэп..,
карб.. .



**150.** Якія словы «згубіліся» ў гэтых сказах?
Вусна дапоўніце сказы.

1. ... разоў адмерай — адзін раз адрэж.
2. ... мае блакітна-шэрае або белае пер’е.
3. Мы падняліся на ... і ўбачылі агні цягніка.
4. ... акіяна захоўвае шмат затанулых караблёў.

Словы для даведкі: *насып, сем, голуб, глыб*.

**151.** Разгледзьце малюнак. Якія цвёрдыя зыч-
ныя гукі не маюць парных мяккіх?




4. Зак. 2696.

**152.** Прачытайце. Правільна вымаўляйце ня-
арныя цвёрдыя зычныя гукі.

**Ж**олуд, **ж**оўты, **дж**ала, ура**дж**ай, **чы**-
**сы**, **шэ**ры, гры**б**, бя**ро**за, **ра**біна, а**рэ**хі,
**ы**шкі, зай**чы**к, во**ж**ык, **чу**жы.

**153.** Разгледзьце малюнак. Перакладзіце сло-
ы на рускую мову.




сурвэтка
шклянка
талерка
кубачак
відэлец
лыжка

● Запішыце словы. Падкрэсліце ў іх літары,
якія абазначаюць няпарныя зычныя гукі.

● Калі беларусы гавораць: «Смачна есці!»?
Як трэба адказаць на гэта пажаданне?

*тале́рка*

**154.** Прачытайце скорагаворкі.

1. Ля шыпшыны шмат шпакоў.
2. Шчаўя ў шчэпаць адшчыпні.



3. Мурашнік частым частаколам Часлаў вясной абгарадзіў.



*Шыпшы́на* — шиповник.
*Шча́ўе* — щавель.

● Патрэніруйцеся хутка і выразна вымаўляць скорагаворкі.



**155.** Прачытайце, правільна вымаўляйце гук [р].



**Грэ**юць лапкі снегі-
**ры** ў **ра**бінавай за**ры**.

● Спішыце сказ, падкрэсліце выдзеленыя літары.

**156.** Прачытайце. Правільна вымаўляйце зычныя гукі [р], [ч], [ш], спалучэнне гукаў [шч].

Па старой дрымучай пушчы
Ходзіць вецер невідушчы.
На мядзведзі шэрсць прычэша,
Спудзіць ракаў ля ракі
Або ў дзятлавай дэпешы
Пераблытае радкі.

*С. Грахоўскі*



*Дэпе́ша* — спешнае паведамленне, тэлеграма.

*дзяўчы́нка* *учо́ра* *рукза́к*

**157.** Прачытайце словы.

Рыжык, агароджа, рукзак, дрэўца, чаравікі, дзяўчынка, учора, шоўк.

- З якімі галоснымі літарамі «сябруюць» літары ***ж, р, ч, ш***?

> Пасля зычных літар ***ж, дж, р, ч, ш*** пішуцца галосныя літары ***а, о, у, э, ы***: *жолуд, мора, парашут, шэры, чыжык.*







парашут

жоўты

чытаць




**158.** Змяніце словы. Запішыце іх па ўзоры.

*Вуж — вужы*, ноч — ... , дождж — ... . *Вучу — вучы*, вяжу — ... , пішу — ... . *Лагер — лагеры*, токар — ... , слесар — ... .

**159.** Прачытайце. Назавіце словы з зычнымі гукамі [ж], [р], [ч], [ш].

Ужо многа гадоў дзеці Беларусі чытаюць часопіс «Вясёлка». Вядомыя пісьменнікі друкуюць у ім вершы, жарты, апавяданні. У сваіх творах яны пішуць пра наша жыццё, пра сяброўства. А яшчэ ў «Вясёлцы» можна знайсці рэбусы і крыжаванкі.

**160.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Растлумачце напісанне слоў з прапушчанымі літарамі.



1. У агародзе летам цвіце ж..ўтым цветам.
2. Ляціць — маўч..ць, ляж..ць — маўч..ць, а як памрэ — зараве.



3. Два браты цераз дарогу ж..вуць, а адзін другога ніколі не бачаць.

- Спішыце першую загадку.

**161.** Прачытайце прыказкі. Выпішыце словы прапушчанымі літарамі. Устаўленыя літары адкрэсліце.

1. Колас добра не спее, калі сонца не рэ.е.
2. Хто працуе — той дуж..е, той расце прыгаж..е.
3. Не кажы «вуч..ўся», а кажы, пра што даведаўся.
4. Бач..ць вока далёка, а розум яшч.. далей.



**162.** Прачытайце. Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары, падкрэсліце іх.

У заапарку летам ж..лі вож..кі. Было іх ш..сць. Двое больш..х — гэта бацькі. А ч..тыры маленькія — іх дзеткі.

## Звонкія і глухія зычныя гукі. Іх абазначэнне на пісьме

**163.** Прачытайце.

— Якія людзі сябруюць паміж сабой? Тыя, што ў нечым падобныя. Гукі таксама выбіраюць сяброў. Паслухайце, як вымаўляюцца звонкі, бадзёры [б] і яго сябра, ціхоня [п]. Дарэчы, звонкія і глухія гукі сябруюць парамі: гук [д] — з гукам [т], гук [ж] — з гукам [ш], гук [з] — з гукам [с].



**164.** Паслухайце і прачытайце словы парамі. [Я]кія зычныя ў пачатку слоў вымаўляюцца звон[к]а, якія — глуха?

біў — піў
год — ход
жыў — шыў

Джэк — чэк
дзень — цень
зала — сала

Зычныя гукі ўтвараюць пары:
[б]—[п], [б']—[п'], [г]—[х], [г']—[х'],
[д]—[т], [дз']—[ц'], [дж]—[ч], [ж]—[ш],
[з]—[с], [з']—[с'].

**165.** Прачытайце словы. Які ў іх першы гук: [з]вонкі ці глухі? Падбярыце словы з парнымі глу[х]імі зычнымі.

заліць — ...
бітон — ...
галодны — ...

жар — ...
Дзіма — ...
дом — ...



*Жар* — яркае гарачае вуголле без полымя.

- Запішыце словы парамі па ўзоры.

Узор: *<u>б</u>алявáць* — *<u>п</u>алявáць*.



**166.** Разгледзьце малюнак. Якія звонкія гукі не маюць парных глухіх? Якія глухія гукі не маюць парных звонкіх?




**167.** Прачытайце верш.

У качане капусным
Заблудзіўся вусень.
Не патрапіць ён дахаты,
Там, дзе мама, там, дзе тата.

*С. Бестава*

- Назавіце гукі, што абазначаны выдзеленымі літарамі. Якія гукі маюць звонкі ці глухі парны гук? Якія гукі засталіся без пары?



**168.** Прачытайце верш.

Як у бубен, спрытна дзюбай
Лупіць дзяцел па сасне.
То ўзмахне віхрастым чубам,
То крылом кару кране.

*С. Шушкевіч*

● Спішыце першыя два радкі. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць парныя зычныя гукі.



**169.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

— Парныя зычныя гукі вельмі сур'ёзна ставяцца да свайго месца і да сваіх суседзяў-гукаў. Варта звонкім гукам апынуцца на канцы слова, як яны страчваюць бадзёрасць і звонкасць: *гара*[д]*ы* — *гара*[т], *мядзве*[дз']*і* — *мядзве*[ц']. А калі іх сусед, наступны гук, — глухі зычны, яны стараюцца падладзіцца пад яго і такসама пачынаюць гучаць глуха: *ка*[з]*аць* — *ка*[с]*ка*, *лы*[ж]*ачка* — *лы*[ш]*ка*.

● Як змяняюцца парныя звонкія зычныя гукі на канцы слоў і перад глухімі зычнымі?



**170.** Прачытайце словы. Заўважайце, як вымаўляюцца зычныя гукі перад галоснымі і на канцы слоў.

| | | |
|---|---|---|
| ду**б**ы — ду**б** | | [б]—[п] |
| лебе**дз**і — лебе**дзь** | | [дз']—[ц'] |
| ста**г**оў — сто**г** | | [г]—[х] |
| на**ж**ы — но**ж** | | [ж]—[ш] |

**171.** Прачытайце верш. Вымавіце выдзеленыя словы. Якія гукі «схаваліся» за літарамі ***ж***, ***з***, ***г*** у выдзеленых словах?




На **лужку** гуляў Міколка,
Дзе мядок збіралі пчолкі.
**Блізка** пчолка падлятала
І дала Міколку джала.

Плакаў на ўвесь **луг** Міколка:
«Не дружу з табою, пчолка!»
*С. Бестава*

*Дала́ джа́ла* — ужалила.

**172.** Прачытайце словы. Звярніце ўвагу на вы-
ўленне парных зычных гукаў у сярэдзіне слоў.

рыба — рыбка
дзядзечка — дзядзька
бегаць — бегчы
лыжачка — лыжка

● Спішыце першы слупок слоў. Выдзеленыя
ары падкрэсліце.

**173.** Прачытайце. Чаму парныя зычныя гукі,
азначаныя ў гэтых словах рознымі літарамі,
маўляюцца аднолькава?

Хлеб — стэп, стог — гарох, медзь —
ць, дождж — плашч.
Рыбка — рэпка, вокладка — палатка,
іжка — шышка, дзядзька — бацька,
зкі — запіска.

*ву́зкі*

**174.** Прачытайце. Якія гукі «хаваюцца» за выдзеленымі літарамі?

Захварэў лянотай Мішка,
Енчыць: «Дайце мёду лыжку!»
Занядужаў, занямог,
Не пацягне нават ног.
*А. Прохараў*




**175.** Прачытайце.

Пад кусточкам, між ліісткоў
Роўна выстраены ў рад
Маладзенькія **грыбочкі**,
Як салдаты на **парад**.
*М. Гамолка*

● Запішыце выдзеленыя словы. Назавіце ў іх усе зычныя гукі. Скажыце, звонкія яны ці глухія.



**176.** Прачытайце. Якія словы аднолькава гучаць? Чаму? Што яны абазначаюць?

У маленькай козкі
Рожкі быццам коскі.
*Р. Барадулін*



● Спішыце. Падкрэсліце літары ***з*** і ***с***.



**177.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

— Каб не памыліцца ў напісанні ...ічнай літары, трэба вызначыць «сапраўд...ы твар» гука — паставіць яго перад га...осным. Напрыклад: *вушка — вушак, ус...ешка — усмешак*. Пішам ***ш***. А ў словах ...*тужка, кніжка* [ш] вымаўляецца замест ...к]: *стужак, кніжак*. Значыць, пішам ***ж***.

● Як вызначыць «сапраўдны твар» парнага ...ычнага гука?

Каб вызначыць, якой літарай абазначыць на пісьме парны зычны гук, трэба падабраць праверачнае слова. У праверачным слове парны зычны гук павінен стаяць перад галосным: *лыжка — лыжак, шышка — шышак, дуб — дубы.*

**178.** Прачытайце.

У кутку не першы го**д**
І звяркі жывуць, і пту**ш**кі.
Тут ваверка і яно**т**,
Зайчаня — даўгія ву**ш**кі.
*Х. Гурыновіч*

● Спішыце словы з выдзеленымі літарамі. Як праверыць правапіс гэтых літар?

**179.** Замяніце словы па ўзоры, запішыце іх.

*зубы — зуб*    *многа дудак — адна дудка*
сады — ...    многа частак — адна ...
сказы — ...    многа бярозак — адна ...

**180.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Спішыце іх, устаўляючы прапушчаныя літары.

1. Уся даро..ка пасыпана гаро..кам.
2. Стаіць дзе.. пры даро..цы на адной но..цы.
3. Белы як сне.., сало..кі як мё.. .

**181.** Прачытайце. Які гук «схаваўся» за кропкамі? Як (звонка ці глуха) ён вымаўляецца?

### Пчолка

Пчолка цэлы дзень улеткy
З кветкі лётала на кветку,
Для таго каб цэлы год
Нашы дзеці елі мёд.

*С. Сокалаў-Воюш*

- Якую літару вы ўставіце? Чаму?

**182.** У прыказках «згубіліся» словы. Дапамажыце іх знайсці. Запішыце гэтыя словы. Растлумачце іх правапіс.

1. Стары ... лепш за новых двух.
2. Дарагая ... перад абедам.
3. Слова як ... : выпусціш — не вернеш.
4. Хто ўлетку ... шукае, той узімку галадае.

Словы для даведкі: *халадку, лыжка, друг, птушка.*

- Як вы разумееце сэнс прыказак?





**183.** Пятрусь пераблытаў пачатак і канец народных прымет. Прачытайце. Навядзіце парадак у гэтых сказах.

1. Ластаўкі ні..ка лятаюць — зіма ўжо блі..ка.
2. Будзе дождж ісці — зіма яшчэ далёка.
3. Жураўлі ляцяць ні..ка — дождж будзе.
4. Жураўлі ляцяць высока — будзе хле.. расці.

- Запішыце выпраўленыя сказы. Устаўце прапушчаныя літары.

## Гукі [д], [т] — [дз'], [ц']. Іх абазначэнне на пісьме



**184.** Прачытайце пары слоў пасля настаўніка.

— У беларускай мове гукі [д] і [т] маюць мяккіх братоў [дз'] і [ц']: ***дубы — дзюба, дэпо — дзень, дошка — дзённік, дыван — гадзіна, дарога — дзяўчынка,***

*ўты* — *вецер*, *сястра* — ***ц**ётка*, *аўто-*
*к* — *чыс**ц**іня*, *працавіты* — ***ц**ікаўны*.

- Як завуць «мяккіх братоў» гукаў [д] і [т]?
- Якія літары пішуцца пасля ***д*** і ***дз***?

**185.** Прачытайце. Сачыце за правільным вы-
ўленнем гукаў [дз'] і [ц'].




Дзядзька дзякаваў мядзведзю —
Дзядзьку выхадзілі ледзьве.
Дзядзьку дзякаваў мядзведзь —
Дзядзька дыхае ледзь-ледзь.

- У якіх словах гук [ц'] «хаваецца» за спалу-
чэннем літар ***дз***?

***186.** Прачытайце словы. Складзіце з іх сказы.

1. У, Дзіна, Дзіма, панядзелак, і, дзя-
журнымі, былі.



2. Дзеці, чысцін
3. Яны, падзяк

- Запішыце перш
зам з наступнай гал

Гук [д] вымаўл
мякка. Пасля лі
ры ***а, о, у, ы,***
літары ***е, ё, і,***
***Дзінай дзяліліся***

**187.** Змяніце сло

У з о р: *сад* –

вада — на ...
сусед — аб ...

**188.** Прачытайце
кам [дз'].

**Ро**

— Ты адкуль
— З сініх нём
Па зямлі збіра
Нібы россыпы

Мілая, адзіная, нам навекі дадзена
Любаю Радзімаю ад дзядоў
і прадзедаў.
*У. Мазго*

**189.** Прачытайце верш. Якія літары трэба [пі]саць у словах: ***д*** ці ***дз***? Чаму?



**Млын**

Заво..ім гаспадарку мы —
Спачатку пабу..уем млын.
Каб крыламі ў кожны бок,
Каб лю..ям быў ві..аць
з..алёк.
*А. Камоцкі*

**190.** Прачытайце прыказкі. Спішыце, устаў[ля]ючы ***д*** або ***дз***.

1. Рада з лю..ьмі ніколі не шко..іць.
2. Усе за а..наго, а а..ін за ўсіх.
3. Бярыся ..ружна, не бу..е грузна.



*Ра́да* — совет.
*Гру́зна* — тяжело.



**191.** Спіш[ыце] ...
руйцеся хутк[а] ...

Дзяцел дзю[...]

**192.** Прачытайце ...
пасля ***т***, якія — па...

Ната — Кац...
птушка — сцюж...
тыдзень — ціха, ...

Гук [т] выма...
Пасля літары ***т*** ...
***о, у, э, ы.*** Пр...
няецца на [ц']. ...
галосныя ***е, ё,*** ...



**193.** Змяніце словы па ўзоры. Запішыце.

У з о р: *масты — мосцікі; пліта — ı пліце.*

кусты — ...  
білеты — ...

жыта — у ...  
работа — на ...

**194.** Дапоўніце сказы словамі. Змяняйце сло-ı, як патрабуе сэнс.

1. Пра нашу школу пісалі ў ... .
2. Пошту прывезлі на ... .
3. Касмічны карабель зноў на ... .

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *арбіта, ıмалёт, газета.*

**195.** Спішыце. Устаўце ***т*** або ***ц***.

Дзе..і пайшлі ў гос..і да шах..ёраў. Іах..ёры расказалі, як яны здабываю..ь шах..ах калійную соль.

**196.** Прачытайце верш. Якія літары «згубілі-я» ў словах?

Намалюю ко..іка  
У чырвоных бо..іках.



Чорныя шарс..інкі  
Буду..ь уздоўж спінкі,  
Беленькі жыво..ік —  
Слаўны будзе ко..ік!

*А. Бібіцкі*

• Спішыце першыя два радкі. Падкрэсліце ўстаўленыя літары.

**197.** Прачытайце словы. Як вымаўляецца ў іх гук, абазначаны літарай ***ц***?

1. **Цы**ркуль, **ца**цка, **цэ**гла, **цо**кат.
2. **Ці**хан, **ця**жкі, с**це**жка, **цё**тка.

> У беларускай мове ёсць цвёрды [ц] і мяккі [ц’]. Яны не ўтвараюць пару. Гук [ц] не мае парнага мяккага гука.

**198.** Прачытайце верш. Пра якога зайку ў ім гаворыцца?

***ёсць***

**Ёсць** зайка-зазнайка ў **казцы** вядомай.  
Ёсць плюшавы зайка на **тумбачцы**  
ў доме,

У **мульціку** смешным, пад елкай у лесе.
А гэты, **пацешны,** у вочы мне лезе.

*Х. Гурыновіч*

● Спачатку назавіце выдзеленыя словы з ёрдым [ц], потым — з мяккім [ц’]. Словы з ккім [ц’] выпішыце.

**199.** Прачытайце прыказкі. Змяняйце словы ў дужках так, як патрабуе сэнс.

1. У сваёй (хата) і вуглы дапамагаюць.
2. На (праўда) свет стаіць.
3. Дармавога на (свет) няма нічога.
4. Сябры пазнаюцца ў (бяда).

● Запішыце прыказкі. Падкрэсліце літары, якія явіліся замест *т* і *д* у змененых словах.

## Падоўжаныя зычныя гукі. Іх абазначэнне на пісьме

**200.** Параўнайце вымаўленне слоў.

збажына — збожжа
жыць — жыццё
колас — калоссе
вулей — вуллі



камень — каменне
печ — (чым?) печчу
мазь — (чым?) маззю



*Збо́жжа* — зерно.

● Як перадаецца на пісьме падоўжанае вымаўленне зычных гукаў?

Гукі [ж], [ш], [с’], [з’], [л’], [н’], [ц’], [дз’] паміж галоснымі могуць вымаўляцца падоўжана. Падоўжанае вымаўленне гукаў перадаецца падвоеным напісаннем літар: *насенне, калоссе, узвышша.*



[нн’]
маляванне
узвышша
[шш]

**201.** Прачытайце верш.

Рана-раненька праглянула сонца,
Пазалаціла галлё на сасонцы.

А на бярозках, асінках, дубочках
Пазалаціла праменнем лісточкі.

*У. Дубоўка*

• Выпішыце словы з падоўжанымі зычнымі гукамі. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць гэтыя гукі.

**202.** Прачытайце словы. Якія літары трэба ўставіць замест кропак? Запішыце гэтыя словы.

Каха..е, дыха..е, зада..е, малява..е, ныта..е, пыта..е.

**203.** Прачытайце словы, у якіх прапушчаны літары ***жж, лл*** або ***цц***. Вусна перакладзіце іх на рускую мову.

Падаро..а, пачу..ё, вясе..е, адплы..ё, кы..ё.

**204.** Навядзіце парадак у сказах і прачытайце іх. Як называюцца такія сказы?

1. Слава, багацце, даражэйшая, за, добрая.
2. За, страціш, запытанне, не, сняданне.
3. Не, адзенне, а, чалавека, чалавек адзенне, упрыгожвае.

• Выпішыце словы з падоўжанымі гукамі. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць падоўжаныя гук

**205.** Прачытайце.

Аб тым, як узнік Брэст, захавалася па данне. Купец прабіраўся з абозам праз Па лессе. На Палессі ж — скрозь бездарож жа ды балоты. Трапіў купец у дрыгву Каб праехаць далей, загадаў ён пакрыц шлях бяростаю ды галлём. Так і вырата ваўся. А само месца ў гонар бярösты выратавальніцы назвалі Бярэсцем. Ад яго і сучасная назва — Брэст.

*Паводле С. Тарасава*

• Назавіце словы з падоўжанымі гукамі. Запішыце іх пад дыктоўку настаўніка.



**206.** Якіх слоў не хапае ў сказах: *вулей* ці *вуллі*, *колас* ці *калоссе*?

1. Пчаляр паставіў новы ... пад яблыню. Усе ... былі ў яго добра дагледжаны.

2. Кожны ... быў буйны́ і спелы. Спее ... схілялася да зямлі.



*Буйны́* — крупный.

- Спішыце. Устаўце патрэбныя словы.
- Падкрэсліце літары, якія абазначаюць паўжаныя гукі.

**207.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце сло. Заўважце, як гучыць падоўжаны [ддз'] у овах.




- Спішыце словы. Падкрэсліце спалучэнне ар *ддз*.

**208.** Прачытайце. Як падоўжаны гук [ддз'] перадаецца на пісьме?

Бязлюддзе, суддзя, стагоддзе, паўгоддзе, малаводдзе.

> Падоўжаны гук [ддз'] на пісьме перадаецца літарамі ***ддз***: *пяцігоддзе, разводдзе, ладдзя.*

**209.** Прачытайце словы. Дапамажыце ім знайсці свае месца ў сказах.

*Вада — разводдзе, соль — соллю, ноч — ноччу.*

1. Вясной снегавая ... напоўніць рэкі. Пачнецца ... .
2. На лес апусцілася цёмная зімовая ... . Драпежныя звяры ... выходзяць на паляванне.
3. Ляснік насыпаў у кармушку ... . Ласі прыйшлі паласавацца ... .

- Спішыце сказы, устаўляючы замест кропак патрэбныя словы.

*210. Перакладзіце словы на беларускую мову і запішыце пераклад.

Подземелье, раздолье, свадьба, крылья, окрестность.



*Навако́лле* — окрестность.

211. Спішыце словы. Запомніце іх напісанне. Падкрэсліце выдзеленыя літары.

Клас, пасажыр, субота, праграма, касона, група.

212. Прачытайце. Назавіце, якія літары прапушчаны ў словах.

У мінулую су..оту наш кла.. хадзіў у тэатр юнага гледача. Мы здалёк убачылі гэты прыгожы будынак з кало..амі. У прагра..е быў спектакль «Беласнежка». Потым адбылася сустрэча з гру..ай акцёраў. Усю дарогу дамоў мы гаварылі пра спектакль. Па..ажыры аўтобуса паглядалі на нас і ўсміхаліся.

- Спішыце першы сказ і падкрэсліце ўстаўленыя літары.





213. Прачытайце. Якія літары прапушчаны ў словах?



Вер..б'ёў ч..родка
на с..сонку села.
І ў кашлатым голлі
птушкам пац..плела.
*І. Мурaвейка*



*Кашла́ты* — лохматый.

- Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.
- Падкрэсліце слова з падоўжаным гукам. Вусна перакладзіце гэта слова на рускую мову.

## Раздзяляльныя знакі — апостраф (') і мяккі знак (ь)



214. Прачытайце. Адкажыце на пытанні.



— У некаторых словах зычныя і галосныя гукі пры вымаўленні **раздзяляюцца** гукам [й]: *з'еў, пад'езд, надвор'е*. На пісьме гэта абазначаецца **раздзяляль-**

**ым** знакам — **апострафам (’).** Апостраф
е літара, а асобы надрадковы значок. Ён
апамагае літарам абазначаць гукі.

- Што такое апостраф?
- Для чаго ён патрэбны ў беларускай мове?

**215.** Прачытайце. Разгледзьце малюнак. Ад-
жыце на пытанні.

Як разложысты бераг і востраў
Нецярплівы праліў раздзяляе,
Гукі так раздзяляе апостраф —
Кропля ўгору хвастом дажджавая.

*Р. Барадулін*




- Які гук вымаўляецца паміж [м] і [а] у слове
ям’я?
- З чым аўтар параўноўвае апостраф?



**216.** Прачытайце. Параўнайце вымаўленне
слоў у кожнай пары.

пя**ро** — пе**р’е** у зу**бе** — зу**б’е**
се**мя** — ся**м’я** зе**бра** — **з’е**сці

- У якіх словах паміж зычным і галосным вы-
маўляецца [й]? Спішыце гэтыя словы.
- Як такое вымаўленне гука [й] перадаецца
на пісьме?

***надво́р’е***

**217.** Прачытайце. Назавіце словы з апост-
рафам.

Яркае сонца б’е ў вокны. Вераб’іная
сям’я зляцела на першую праталінку. Ве-
раб’і купаюцца і п’юць ваду з лужынкі.
Яснае надвор’е стаіць да самага вечара.

- Спішыце. Падкрэсліце ў словах літары, па-
між якімі стаіць апостраф.

***вераб́ей — вераб’і́***

Апостраф пішацца пасля зычных лі-
тар перад галоснымі ***е, ё, і, ю, я:*** *над-
вор’е, з’ехаў, пад’ём, вераб’і, б’ю, сям’я.*

5. Зак. 2696.

**218.** Выканайце заданне, якое прыдумаў для вас Р. Барадулін.

Прачытай словы гэтыя жвава:
**Зуб'е, пер'е, сузор'е, аб'ява.**



*Жва́ва* — бойко, быстро, проворно.
*Сузо́р'е* — созвездие.

• Які гук вымаўляецца паміж зычным і галосным гукамі ў выдзеленых словах?

***219.** Дапамажыце словам змяніцца так, як патрабуе сэнс. Спішыце, апускаючы дужкі.

1. Хвалі набягаюць і (біцца) аб бераг.
2. Вожык і барсук падрыхтуюць на зіму норкі і (забіцца) ў іх.
3. Хоць лякарства і горкае, але яго (піць).

**220.** Прачытайце прыказкі. Як вы разумееце іх сэнс?

1. Адным гарбузікам не пад'ясі, а расінкаю не нап'ешся.
2. Адным канём усё не аб'едзеш.
3. Прыгожая птушка пер'ем, а чалаве… вучэннем.
4. Напалоханая варона і вераб'я баіц…

• Спішыце словы з апострафам. Растлума… це яго напісанне.



**221.** Дапамажыце словам *пер'е — п…ро, сям'і — сямі* знайсці свае месца … сказах.

1. Лёгкае … , а на страху не закінеш…
2. У снегіра прыгожае … .
3. Мой тата працуе з … гадзін раніцы…
4. У нашай … ўсе дапамагаюць адзі… аднаму.

• Спішыце сказы. Падкрэсліце ўстаўлены… словы.



**222.** Прачытайце. Адкажыце на пы…танне.

— Мяккі знак не толькі абазна…чае мяккасць зычных гукаў. Ён паказвае, што зычны і галосны **раздзяляюцца** гу…кам [й]: *лью, павільён, Ульяна.* Таму яго,

і апостраф, таксама называюць **раздзя-льным** мяккім знакам.

- Якія дзве ролі выконвае літара **ь**?

**223.** Прачытайце сказы. Параўнайце вымаўлнне выдзеленых слоў.

Я **палю** градкі. Пасля праполкі я іх **палью**.
Я **салю** бульбу. Калі бульба зварыцца, **салью** ваду.

- У якіх словах паміж [л'] і наступным галосным чуецца [й]?



**Раздзяляльны мяккі знак (ь)** пішацца пасля літары ***л*** перад галоснымі літарамі ***е, ё, і, ю, я***: ***льеш, мільён, Ільін, лью, Ульяна***.

**224.** Прачытайце.

Агуркі толькі ўзышлі. Спачатку я іх стаparanна прапалю, потым узрыхлю глебу.



Яркае сонца добра прыгравае, дзьме лёгкі ветрык. Пульхная глеба хутка высыхае. Вечарам я палью градку. Глеба прагна паглыне ваду. Сапраўды, як у прыказцы: «Наліць — нальеш, а выліць — не выльеш».



*Пу́льхная гле́ба* — мягкая почва.
*Пра́гна* — жадно.

- У якіх словах галосны гук вымаўляецца адразу пасля [л']? У якіх паміж [л'] і галосным чуецца [й]? Выпішыце гэтыя словы.

**225.** Выпішыце ў адзін слупок словы, у якіх **ь** абазначае толькі мяккасць зычнага, а ў другі — словы з раздзяляльным мяккім знакам.

Дзядзька, мільён, Ульяна, гальштук, батальён, пісьмо, бутэлька, апенька, павільён, мільянер, паштальён.

**226.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

Сёння з хмар л..е халодны **дождж**ык. Іл..я бярэ парасон, апранае плашч і ідзе

ў школьную майстэрню. Там майстар Павел Васіл..евіч вучыць Іл..ю працаваць на такарным станку.

- Назавіце слова, у якім **ь** абазначае мяккасць зычнага гука.
- Назавіце няпарныя цвёрдыя гукі ў выдзеленым слове.

**227.** Бацьку *Антона* завуць *Анатолій*, бацьку *Марыны* — *Віталій*, а бацьку *Арцёма* — *Васілій*. Якія ў гэтых дзяцей імёны па бацьку?

- Запішыце гэтыя імёны і імёны па бацьку, як паказана на ўзоры. Падкрэсліце раздзяляльныя **ь** разам з папярэдняй літарай **л**.

Узор: *Анастасія Савельеўна, Кірыла Савельевіч.*




**228.** Разгледзьце два малюнкі. Раскажыце, з якімі зычнымі літарамі «сябруе» мяккі знак, а з якімі — апостраф.






**229.** Прачытайце. Якія раздзяляльныя зн... прапушчаны ў словах?

У Іл..і Лук..янава вялікая і дружн... сям..я. Яго бацька, Андрэй Валер..еві... працуе на трактарным заводзе. Ма... Дар..я Васіл..еўна, — паштал..ён. Сяст... Ул..яна вучыцца ў інстытуце.

- Спішыце. Падкрэсліце літары, паміж які... стаяць раздзяляльныя знакі.



**230.** Спішыце словы, устаўляючы п... трэбны раздзяляльны знак.

Л..ецца, аб..ём, узмор..е, біл..ярд... пад..ём, вераб..і, батал..ён, з..елі.

## Напісанне слоў з ў

**231.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

— Вы ўжо знаёмыя з гукамі [у] і [ў], а зараз пазнаёмімся з іх ...роўкамі — літарамі ***у*** і ***ў*** (***у*** нескладо...м). Р. Барадулін прысвяціў гэтым вель... падобным адна на адну літарам жар...ўны верш.

Над ***у*** маладзічок ляцеў
ды затрымацца захацеў,
вісець так і застаўся стала.
***У*** з доўгага *кароткім* стала.




- Пра якія літары ідзе гаворка ў вершы? Чым ...ы адрозніваюцца адна ад адной?

**232.** Прачытайце. Сачыце за правільным вы...ўленнем гука [ў]. Заўважце, пасля якіх літар ...шацца ***у***, а пасля якіх — ***ў***.

Убачыў Саша вадаспад,
Аж войкнуў і здзівіўся.
— Чаму, — пытаецца ў сястры, —
Фантан перакуліўся?

*П. Пранузa*

**233.** Прачытайце. Спішыце, падкрэсліце ***ў*** ад...ной рыскай, а папярэднюю літару — дзвюма.

Дзятлік сівы,
як праменьчык жывы,
то **ўверх,** то ўніз.
На суку́ павіс.
Схаваўся ў **дупле.**
Ізноў на ствале.

*Д. Бічэль-Загнетава*

- Пасля якіх літар пішацца ***ў***?
- Назавіце зычныя гукі ў выдзеленых словах...

Літара ***ў*** пішацца пасля галосных літар у сярэдзіне і ў канцы слова: *ло**ў**кі, ро**ў**ны, зно**ў**, узя**ў**, ле**ў**.*

Літара ***ў*** пішацца ў пачатку слова, калі папярэдняе слова канчаецца на галосную літару: *Сонейка **ў**летку **ў**зыходзіць рана.*

**234.** Прачытайце назвы птушак. Выпішыце словы з ***ў***.

Ластаўка, кнігаўка, бусел, салавей, ма...лінаўка, дзяцел, глушэц, жаўранак, кулік, аўсянка.

**235.** Змяніце словы па ўзоры, запішыце. Падкрэсліце **ў**.

*чыла — вучыў*  *галава — галоўка*
сала — ...  трава — ...
італа — ...  сліва — ...
чыла — ...  канава — ...

**236.** Прачытайце. Запішыце апавяданне так, у ім гаварылася не пра дзяўчынку Ніну, а хлопчыка Паўліка.

Ніна з мамай былі зімой у лесе. Ніна **ўва́жыла** пад кустом вавёрачку. Дзяўнка падняла звярка на рукі і прынесла моў.

Ніна карміла яе, даглядала. Вясной на аднесла вавёрачку **зноў** у лес.

- Назавіце гукі і літары ў выдзеленых словах.

**237.** Адгадайце загадкі з дапамогай малюнка. Спішыце іх, устаўляючы літары **у** і **ў**.

1. Адно вока свеціць ..дзень, а друе — ..начы.



2. Сіняя дзяружка ..весь свет пакрыла.
3. На двары гарою, а ... хаце вадою.

## Напісанне вялікай літары ў словах



**238.** Прачытайце. Чаму выдзеленыя словы напісаны з вялікай літары?

Слухачоў у **Міхася** багата —
паглядзі ды злічы.
Хто ж яго слухачы?
**Тамара, Агата,**
**Стэфка, Юзэфка,**
**Кандрат, Ігнат,**
**Дзям'ян, Сцяпан,**
**Пятрок, Змітрок.**

*Якуб Колас*

- Запішыце імёны ў алфавітным парадку.

**239.** Прачытайце верш. Назавіце словы, якія пішуцца з вялікай літары. Што абазначае кожнае з гэтых слоў?

Гараднічанка — рэчачка малая,
яна з вялікім Нёмнам размаўляе.
Учора размаўляла і сягоння.
На берагах яе жыве Гародня.
Гародня — мужны, старажытны горад.
Гародню вельмі любіць Нёман-волат.

*Д. Бічэль-Загнетава*






*Гародня* — адна з дзвюх назваў горада Гродна, больш старажытная. *Волат* — богатырь.

• Спішыце апошні радок верша. Падкрэсліце словы, якія пішуцца з вялікай літары.



З вялікай літары пішуцца:
- імёны, імёны па бацьку, прозвішч... людзей;
- клічкі жывёлы;
- назвы краін, гарадоў, вёсак, вулі...
- назвы мораў, рэк, азёр.

**240.** Прачытайце. Выпішыце ў алфавітн... парадку спачатку назвы рэк, а потым — азё...

У з о р: *Рэкі: Дзвіна*, ... , ... , ... .
*Азёры: Асвейскае*, ... , ... , ...

Наша краіна — Беларусь.

Праз палі, лясы і балоты цякуць п... наводныя рэкі Нёман і Дзвіна, спакой... Днепр, павольная Прыпяць.

Нашу краіну называюць краем блак...ных азёр. Самыя вялікія і прыгожыя а...ры — Нарач, Асвейскае, Чырвонае, Сн... Свіцязь.

***241.** У сказах прапушчаны назвы краіны, ...рада, вёскі і ракі. Устаўце патрэбныя назвы...

Народны паэт ... Якуб Колас нарад...ся на хутары непадалёку ад вёскі ... .

Словы складаюцца з гукаў мовы. Гукі ў словах аб’ядноўваюцца ў склады.

Апостраф (’) — асобы надрадковы значок.







і

ў

Не забывайце правільна пісаць літару *і*!

Гук [ў] абазначаецца літарай *ў* (у нескладовае).



Гукі [д] і [дз’], [т] і [ц’] утвараюць пары па цвёрдасці—мяккасці.

| | |
|---|---|
| д | т |
| дз’ | ц’ |

д ж

**Памятайце!**

Некаторыя гукі абазначаюцца адразу дзвюма літарамі:
[дз’] — *дз*,
[дж] — *дж*.



д з

| | |
|---|---|
| ж | дж |
| ш | ч |
| р | |

Гукі [ж], [ш], [ч], [дж], [р] заўсёды цвёрдыя!

